# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 28 (107) — Нядзеля 13 ліпеня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Два імпэрыялізмы

## АБАРОНЬНІКІ Й ФАНАТЫКІ РАСЕЙСКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Абароньнікі «единой и неделимой» спасярод расейскай палітычнай эміграцыі, як і іхныя адвакаты сярод грамадзянстваў заходняга сьвету, на апраўданьне, зрэгабілітаваньне, а навет апотэозу спрадвечнага расейскага імпэрыялізму прыводзяць факт, што й дзяржавы дэмакратычнага Захаду ў працэсе свайго гістарычнага разьвіцьця пашыраліся й павялічваліся шляхам такіх-жа самых імпэрыялістычных захопніцтваў і падбояў. Для людзей, што гэтак думаюць і намагаюцца накінуць свой пагляд іншым, сяньняшняя многанацыянальная Расея — гэта інтэгральная арганічная цэласьць, што злажылася гістарычна шляхам натуральнага палітычнага, эканамічнага й культурнага разьвіцьця. А таму й пасягаць сяньня ці ў будучыні на гэтую «гістарычна зложаную цэласьць» зьяўляецца непрабачальным праступкам, «фарызэйствам» і «нонсэнсам», як заявіў былы прэзыдэнт Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі сп. Э. Ляёнс у сваім артыкуле «Падарак Эчысона Сталіну», надрукаваным у свой час у амэрыканскім журнале «Фрымэн» і падхоплены потым расейскай прэсай усіх кірункаў, як «узор правільных дачыненьняў да праблемаў змаганьня з камунізмам і вызваленьня паняволенай Расеі» (параўняй наш артыкул «Неразуменьне ачавідных справаў ці сьвядомае дзеяньне». «Бацькаўшчына», № 10 за 9. 3. 52).

У цытаваным артыкуле сп. Ляёнс войстра заатакаваў ведамую прамову міністра замежных справаў ЗША Эчысона за утожсамліваньне непаўстрыманае бальшавіцкае агрэсыі з традыцыйным расейскім імпэрыялізмам, што пасьлядоўна разьвіваецца із што раз большым насіленьнем ад 500 год. Сваю абарону й гістарычнае апраўданьне расейскага імпэрыялізму сп. Ляёнс, між іншым, абапіраў тады на наступным зьявішчы: **«Напад дзяржаўнага сакратара на Расею — пісаў сп. Ляёнс — зьяўляецца зусім неадпаведным. Любая другая вялікая дзяржава на працягу стагодзьдзяў расшыралася дакладна таксама, як і Расея, за кошт суседзяў, шляхам «захопу і ўмацаваньня», вайной, агрэсыяй і алянізацыяй. Абвінавачаньне, якое Эчысон высоўваў супраць Расеі, на столькі сама адносіцца да Вялікабрытаніі, Аўстравугоршчыны й Нямеччыны. Ён мог-бы прызнаць гэта справядлівым навет у дачыненьні да нашай собскай краіны, якая — і не ў 500 год, але ў 150! — з прыбярэжнай паласы на Атлянтычным акіяне вырасла да разьмераў цэлага кантынэнту.»**

І далей амэрыканскі аўтар робіць з гэтага наступныя «рэвэляцыйныя» вывады: наступныя «рэвэляцыйныя» вывады: **«Наводзіць на Расею спэцыяльнае абвінавачаньне за гістарычны працэс, супольны ўсім сучасным імпэрыялістычным дзяржавам, гэта фарызэйства й нонсэнс. Яно ствараецца, каб апраўдаць агрозу распадзелам («расчленением») краіны, як гэта было сказана ў «Таймс», — але гэта амаль самагубства з гледзішча запраўднага змаганьня супраць сусьветнага камунізму.»**

Такімі катэгорыямі думае і такімі аргумэнтамі бароніць найжахлівейшую турму народаў — імпэрыялістычную Расею ня толькі «дэмакратычная» расейская эміграцыя бязь розьніцы ейных палітычных кірункаў, ня толькі амэрыканскі «дэмакрат» сп. Ляёнс, але таксама й аўтар палітыкі паўстрымоўваньня Расеі («кантэйнмэнту») сяньняшні амбасадар ЗША ў Маскве сп. Кэнан, для якога Ўкраіна зьяўляецца такой самай неаддзельнай часткай расескай імпэрыі, як Пэнсыльвэнія для ЗША, на такіх пазыцыях стаіць і Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі ды й шмат іншых амэрыканцаў. Яны, ня могучы ці ня хочучы зразумець запраўднай сутнасьці справы, згары стаўляюць знак роўнасьці між расейскім імпэрыялізмам і імпэрыялізмамі дзяржаваў Захаду. Яны зьяўляюцца фанатычнымі абароньнікамі цэласьці й непадзельнасьці шматнацыянальнай расейскай імпэрыі, уважаючы яе за інтэгральную цэласьць, што злажылася шляхам натуральнага працэсу гістарычнага разьвіцьця.

Усе гэтыя людзі аднак забываюць, што ў запраўднасьці ніякага знаку роўнасьці між расейскім і заходнім імпэрыялізмам ня было й няма: гэта зусім два розныя й у сваіх выніках супярэчныя сабе зьявішчы. Аб гэтых розьніцах можна было-б пісаць цэлыя томы. Мы тут абмежымся да сьцьверджаньня толькі некаторых найважнейшых мамэнтаў, якія абодвыя імпэрыялізмы стаўляюць на зусім супрацьлеглых полюсах.

## ПРАГРЭСЫЎНАЯ РОЛЯ ЗАХОДНЯГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Першай і асноўной асаблівасьцю заходняга імпэрыялізму зьяўляецца ягоны чыста эканамічны характар. Ён зьяўляецца перш за ўсё накіраваным на эканамічнае выкарыстоўваньне каляніяльных краінаў, затое, у адрозьненьне ад імпэрыялізму расейскага, зусім ня меў на мэце нацыянальнага паняволеньня каляніяльных народаў ані іхнае асыміляцыі. Таксама і ў галіне палітычнай гэты імпэрыялізм ня мог прынесьці істотнай шкоды для каляніяльных народаў, паколькі яны стаялі на вельмі нізкай і прымітыўнай узроўні свайго палітычнага разьвіцьця.

Мы ня хочым ува ўсіх дачыненьнях абяляць і апраўдваць заходняга імпэрыялізму, які бясспрэчна прыносіў з сабой і многа зла. Яно ў першую чаргу заключалася ў бязьлітаснай эканамічнай эксплёатацыі каляніяльных краінаў і ў сацыяльным прыгнечаньні каляніяльных народаў. Але нельга наагул, а ў прыраўнаньні да расейскага імпэрыялізму ў прыватнасьці, закрываць вачэй і на вялікую прагрэсыўную ролю, якую ён згуляў ува ўсіх галінах жыцьця каляніяльных народаў: палітычнай, эканамічнай і культурна-цывілізацыйнай. Вялікабрытанія, Францыя, Бельгія ці Галяндыя або іншыя дзяржавы культурнага Захаду, падпарадкаваўшы сабе каляровыя народы паўдзённай Азыі ці Афрыкі, у натуральным працэсе разьвіцьця сваей каляніяльнай палітыкі правялі сярод каляніяльных народаў, што знаходзіліся тады на прымітыўнай, нярэдка яшчэ пляменнай узроўні свайго разьвіцьця, вялікую цывілізацыйную й культурную місію. Яны, служачы ўзорам собскіх цывілізацыйных дасягненьняў і ня будучы зацікаўленымі ў нацыянальным паняволеньні й асыміляцыі каляніяльных народаў, у вялізарнай меры далі штуршок для разбуджэньня й разьвіцьця нацыянальных пачуцьцяў гэтых народаў, іхнай нацыянальнай культуры, а, прыцягваючы мясцовыя элемэнты да дзяржаўнай адміністрацыйнай службы, спрычыніліся да палітычнага выпрабленьня каляніяльных народаў. Імкнучыся да найбольш выдайнай эканамічнай эксплёатацыі натуральных багацьцяў сваіх калёніяў, заходнія дзяржавы праводзілі ў сваіх заморскіх валаданьнях вялікія інвэстыцыі, укладалі высокі капітал, разбудоўвалі мясцовую індустрыю, шляхі зносінаў, павышалі ўзроўню сельскае гаспадаркі. Ня будзе ніякім парадоксам, калі скажам, што такая каляніяльная палітыка, побач із бясспрэчнымі мінусамі, прыгатавала каляніяльныя народы да самастойнага дзяржаўнага жыцьця мадэрнага тыпу, яна зрабіла іх дасьпелымі

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Дыпляматычная актыўнасьць ЗША.** Міністар замежных справаў ЗША Эчысон, які ад 23 чэрвеня да канца месяца адбываў важную канфэрэнцыю на актуальныя палітычныя тэмы ў Лёндане зь міністрам замежных справаў Вялікабрытаніі Ідэнам і міністрам замежных справаў Францыі Шуманам, адведаў пасьля гэтага заходні Бэрлін, дзе нямецкае жыхарства прыгатавала яму вялікую авацыю. Пасьля Бэрліна Эчысон адведаў Вену, дзе заявіў, што, ня гледзячы на савецкую абструкцыю, Амэрыка імкнулася й будзе імкнуцца да прывярненьня Аўстрыі поўнай незалежнасьці. З Аўстрыі міністар Эчысон выляцеў у сталіцу Бразыліі — Рыё дэ Жанэйро.

**Сэнат ЗША зацьвердзіў ваенны бюджэт ЗША.** 30 чэрвеня 1952 амэрыканскі сэнат зацьвердзіў амэрыканскі ваенны бюджэт на фінансавы 1952/53 год, які распачаўся 1 ліпеня сёлета. Ваенны бюджэт ЗША выносіць роўна 46.403.000.000 даляраў. Зацьверджаны сэнатам бюджэт зьяўляецца на 196 мільёнаў даляраў вышэйшым, чымсьці прапанавала палата рэпрэзэнтантаў, але ніжэйшы за ўрадавы праект, які дамагаўся 51.390.000.000 дал.

**Сем год Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.** У Амэрыцы была ўрачыста адзначаная сёмая гадавіна Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. У Нью Ёрку перад будынкам ЗН будзе збудаваны вялікі фантан на сродкі, дабравольна сабраныя школьнымі дзецьмі Амэрыкі. На гэтую мэту амэрыканскія дзеці сабралі 50.000 даляраў.

**Дуклё зводьнены з арышту.** Генэральны сакратар камуністычнай партыі Францыі Дуклё, які некалькі тыдняў таму назад быў арыштаваны ў сувязі з прыгатаванай ім дэманстрацыяй супраць прыезду ў Парыж новага галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту ген. Рыджвэя й быў абвінавачаны за змову супраць бясьпечнасьці Францыі, 1 ліпеня быў зводьнены з арышту. Звальненьне Дуклё наступіла з чыста фармальных прычынаў, якія ня маюць нічога супольнага з працэсам супраць камуністычнай партыі: Дуклё зьяўляецца дэпутатам француcкага парляманту, а дэпутаты могуць быць арыштаваныя толькі тады, калі парлямант адкліча іхны імунітэт або калі яны будуць злоўленыя на месцы праступку. Галоўны рэдактар камуністычнай газэты «Юманітэ» Стыль знаходзіцца ў турме й дагэтуль.

**Катынская камісыя кангрэсу канчае сваю работу.** Спэцыяльная камісыя амэрыканскага кангрэсу, якая ад даўжэйшага часу займалася дасьледваньнем забойства польскіх афіцэраў у Катыні, заканчвае сваю работу. Рэспубліканскі кангрэсмэн Орконскі паведаміў 2 ліпеня, што камісыя хутка апублікуе справаздачу із свайго сьледзтва, у якой, на падставе аднагалоснага сьцьверджаньня 150 сьветкаў, саветы абвінавачваюцца ў замардаваньні падчас вайны 15.000 польскіх ахвіцэраў. Матарыял, якім распараджаецца камісыя, паказвае, што Катынь быў толькі часткай савецкай праграмы народаўбіўства, бо 5.000—6.000 польскіх афіцэраў было замардавана каля Харкава. Таксама вялікая іх колькасьць была затопленая ў Белым моры.

**Амэрыка абвінавачвае Савецкі Саюз за прывярненьне сыстэмы нявольніцтва.** ЗША афіцыяльна абвінавацілі Савецкі Саюз за паварот да старажытнага нявольніцтва, г. зн. за частковае апіраньне сваей гаспадаркі на сыстэме прымусовай працы. Амэрыканскі прадстаўнік злажыў у камітэце ЗН да справаў прымусовай працы асьветчаньне, абапёртае на 20.000 запрысяжаных сьветках і стогу дакумэнтаў у тры стапы вышыні. Амэрыканскае асьветчаньне сьцьвярджае, што: 1. за ўвесь час свайго існаваньня савецкі рэжым карыстаецца прымусовай працай, 2. колькасьць людзей, што знаходзяцца ў савецкіх лягерах, зьяўляецца ў Саветах дзяржаўнай тайніцай. Паводля заходняй ацэны гэтая колькасьць хістаецца ад 2.500.000 да 24.000.000 чалавек, 3. савецкія лягеры прымусовай працы зьяўляюцца месцам жахлівага забойства, якое палягае на непасільнай працы, нялюдзкіх жыльлёвых умовах, голадзе й адсутнасьці лекарскай апекі, 4. тайная паліцыя МВД праводзіць раўналежна паліцыйную дзейнасьць і выконвае вялікія будаўляныя інвэстыцыі.

**Папа Пій XII за дапамогу ўцекачом.** Зьвяртаючыся да ўрадаў усяго сьвету, Папа Пій XII заклікае да супрацоўніцтва з ЗН у іхнай дзейнасьці ў кірунку помачы й уладжаньня уцекачоў. Людзкім абавязкам зьяўляецца — гаворыцца ў закліку — памагаць у крытычны пераходны час людзям, што зьяўляюцца пазбаўленымі бацькаўшчыны й былі прасьледванымі за тое, што былі вернымі маральным вартасьцям хрысьціянства і любові свабоды.

**Кангрэс прыняў іміграцыйны закон.** Паміма прэзыдэнцкага «вэта» супраць праекту іміграцыйнага закону сэнатара Мэк Кэрана, амэрыканская палата рэпрэзэнтантаў і сэнат вымаганай бальшынёю двух трэйціх галасоў прынялі гэты закон згодна папярэдняга зьместу. Труман наклаў сваё «вэто» ў сувязі з тым, што закон абмежываў магчымасьці эміграцыі ў ЗША для азыяцкіх народаў.

**Перабудова чыгуначных лініяў у сатэлітных дзяржавах.** Заходнія разьведкі адназгодна паведамляюць, што Саветы пашыраюць важныя із стратэгічнага гледзішча чыгуначныя лініі ў сатэлітных дзяржавах, прыраўніваючы іх да разьмеру чыгуначных лініяў у Савецкім Саюзе.

**Саветы прыгатаўляюць бактэрыялягічную вайну.** Адмірал Захарыс, былы заступнік начальніка інфармацыйнай службы флёты ЗША публікуе ў парыскай газэце «Л'Орор» сэрыю артыкулаў аб савецкіх працах у галіне падгатаваньня вайны пры помачы бактэрыяў. Ён на падставе фактычнага матарыялу даказвае, што гэтыя работы пачаліся ўжо ў 1925 годзе.

**Нячуваная летняя сьпёка.** Апошнім часам пануе нячуваная летняя сьпёка на цэлай паўночнай палавіне зямной кулі ад Сярэдняга Захаду ў ЗША (ад Чыкаго) аж да Масквы. У многіх мясцовасьцях Эўропы й Амэрыкі была зарэгістраваная рэкордная тэмпэратура. Гэтак у некаторых мясцовасьцях Заходняй Нямеччыны тэмпэратура днём падыймаецца да 38 градусаў Цэльсыя ў цені, у Амэрыцы, асабліва на паўдні й паўдзенным захадзе краіны — да 41 градуса Цэльсыя ў цені. Гэтая сьпёка паралізуе нармальную працу й чыгуначны рух, бо здараюцца часта нешчасьлівыя выпадкі з прычыны пакорчаньня ад гарачыні рэйкаў. Шмат ёсьць выпадкаў сьмерці. У ваднэй Амэрыцы да 29 чэрвеня памерла 126 чалавек ад сонечнага ўдару. У Парыжы на вуліцах топіцца навет асфальт. Таксама й насельніцтва Ангельшчыны пераажывае неспатыканую дагэтуль сьпёку. Затое ў гэтыя дні асабліва добра зарабляюць фабрыканты й прадаўцы халодных напіткаў ды собсьнікі купальных пляжаў.

**Абаронныя пляны Атлянтычнага Пакту гатовыя.** Шэф штабу атлянтычнай арміі ген. Грунтэр заявіў, што альянцкая галоўная гаспода мае ўжо прыгатаваныя апэрацыйныя пляны на выпадак нападу з Усходу. Мэтаю гэтага пляну ёсьць спараліжаваньне атакі ворага, а навет зрабленьне яе немагчымай. Прамаўляючы на паседжаньні француcкага геаграфічна-гаспадарскага таварыства, ген. Грунтэр падчыркнуў, што для абароны сярэдняга адрэзку фронту — з Францыяй, як цэнтрам — ня будзе створаны «людзкі вал». Галоўная ўвага будзе зьвернута на лётніцтва й выкарыстаньне тэхнічных дасягненьняў Захаду. Праблемамі, што чакаюць на сваё разьвязаньне, паводля ген. Грунтэра, зьяўляюцца: 1. далейшае разьвіцьцё лётніцкіх сілаў, 2. разбудова сілаў наземных, 3. Індакітай, 4. разбудаваньне службы на тылох, 5. удзел Нямеччыны, 6. забясьпечаньне гаспадарскай стабілізацыі.

# І Далес за праграму вызваленьня

Кампанія амэрыканскіх рэспубліканцаў, запачаткаваная кангрэсмэнам Кэрстэнам, за прыняцьце новай палітычнай праграмы вызваленьня паняволеных расейскім бальшавізмам народаў на месцы дасюлешняй палітыкі паўстрымоўваньня Расеі, за чым высказалася паважная колькасьць рэспубліканскіх палітыкаў у нядаўна праведзенай дыскусыі ў кангрэсе, знаходзіць штораз болей прыхільнікаў у амэрыканскім палітычным сьвеце. За канечнасьцю распачацьця новага палітычнага курсу ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й паняволеных ім народаў таксама высказаўся й такі выдатны амэрыканскі палітык, як былы спэцыяльны дараднік прэзыдэнта Трумана й аўтар мірнага дагавору зь Японіяй — Джон Фостэр Далес. Высказваньні Далеса маюць першарадную вагу з увагі на тое, што, у выпадку перамогі рэспубліканскай партыі на прэзыдэнцкіх перавыбарах, ён уважаецца за найбольш праўдападобнага кандыдата на становішча міністра замежных справаў ЗША. Таксама Далесу даручана апрацаваць палітычную праграму рэспубліканскай партыі ў справе замежнай палітыкі ЗША, якая мае быць прынятай на партыйнай канвэнцыі ў Чыкаго. З гэтай праграмай рэспубліканцы пойдуць на прэзыдэнцкія выбары й яна будзе абавязваць будучага прэзыдэнта ў выпадку перамогі рэспубліканцаў.

Далес, які раней выконваў найважнейшыя замежныя місіі з боку ўраду ЗША, апошнім часам, каб мець свабодную руку дзеяньня ў перадбыбарным пэрыядзе, зусім парваў зь цяперашнім амэрыканскім урадам. Сваё палітычнае «крэдо» ён сфармуляваў у артыкуле п. н. «Палітыка сьмеласьці», зьмешчаным у ведамым амэрыканскім журнале «Ляйф». У сваей палітычнай праграме ён высунуў дзьве аснаўныя тэзы.

Аднэй тэзай Далеса зьяўляецца канечнасьць зарганізаваньня абароны сьвету на зусім іншых, чымсьці дагэтуль, асновах. Ён уважае, што палітыка, якая будзе ськіраваная толькі дзеля абароны заходняй Эўропы, а ня будзе рупіцца аб бясьпечнасьці Далёкага й Блізкага Ўсходу, а таксама Афрыкі, зьяўляецца хвальшывай і катастрафальнай. Таксама ўважае ён за недарэчнасьць арганізаваньне абароны ўздоўж цэлай граніцы паміж вольным і камуністычным сьветам, якая цягнецца на лініі 20 тысячаў міляў. Калі-б заходнія дзяржавы намагаліся быць аднолькава сільнымі ўсюды, дзе Саветы могуць на іх напасьці, дык ня будуць сільнымі нідзе, ім паграджала-б тады поўнае банкроцтва. Таму Далес зьяўляецца перакананым, што ў выпадку савецкай атакі трэба ўдарыць якраз там, дзе гэты ўдар будзе для ворага найбольш балючым.

Ён дамагаецца пакончыць раз назаўсёды з такой стратэгіяй і тактыкай, калі Крэмль можа свабодна выбіраць месца дзеля пробы сілаў. Таму Далес ня хоча новых Карэяў, высказваецца супраць высыланьня збройных сілаў Захаду ў Індакітай, калі-б на яго напалі кітайскія камуністыя, таксама ў выпадку нападу камуністычнай Баўгарыі на Югаславію ён супраць высыланьня туды амэрыканскага войска. **Найбольш правільным адказам на новыя акты савецкай агрэсыі павінен быць удар на «жаролы магутнасьці й камунікацыйныя лініі савецкага сьвету», пры гэтым павінны быць ужытыя ўсе сродкі зьнішчэньня, якія Захад будзе ўважаць за найбольш адпаведныя.** З гэтага вынік, што ў выпадку паўтарэньня новай агрэсыі заходні сьвет не павінен вязаць на далёкіх пэрыфэрыях сваіх сілаў, не павінен ушаноўваць фармальнай нэўтральнасьці Савецкага Саюзу, **але ўдарыць ворага пры помачы атамных бомбаў па самай ягонай галаве, маючы выразна на думцы, што гэтай галавой ворага зьяўляецца чырвоная Масква.** Толькі гэткім спосабам можна — на думку Далеса — зьнеахвоціць Савецкі Саюз ца новых актаў агрэсыі.

Другая тэза Далеса зьяўляецца для нас яшчэ больш цікавай і абнадзейваючай. Ён дамагаецца, што заходні сьвет,

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Два імпэрыялізмы

(Заканчэньне)

да собскага дзяржаўнага кіраўніцтва, выклікала шыбкі прагрэс нацыянальнай культуры.

Усе гэтыя элемэнты каляніяльнай палітыкі Захаду былі тым магутным рухаючым маторам, што ў сваім выніку прывёў да раскладу імпэрыялізму заходніх дзяржаваў. Сяньня адныя, нядаўна яшчэ каляніяльныя народы, сталіся поўнасьцю незалежнымі, як Індыя, Пакістан, Філіпіны й мноства іншых, другія захавалі вельмі слабкую сувязь із сваімі мэтраполіямі, будучы фактычна таксама незалежнымі або напалавіну незалежнымі, а збройнае змаганьне французаў у Індакітаі ня мае ўжо нічога супольнага з змаганьнем дзеля ўтрыманьня стану каляніяльнага валаданьня, бо Індакітай фактычна ўжо творыць сабой некалькі незалежных дзяржаваў. Змаганьне Францыі ў Індакітаі зьяўляецца змаганьнем супраць агрэсіі сусьветнага камунізму, падобна як збройнае змаганьне Задзіночаных Нацыяў у Карэі.

Пры гэтым для падчыркненьня прагрэсыўнай ролі заходняга імпэрыялізму варта адцеміць яшчэ факт, што незалежныя дзяржавы, якія паўсталі з ранейшых калёніяў, у бальшыні выпадкаў захоўваюць сяньня прыязныя дачыненьні з былымі сваімі «прыгнятальнікамі», а некаторыя зь іх, будучы фактычна й фармальна незалежнымі, дабравольна належаць і сяньня да брытанскага камэнвэльту. Гэта найлепшы доказ, што й самі былыя каляніяльныя народы разумеюць, што імпэрыялізм заходніх дзяржаваў прынёс ім у суме болей дабра, чымсьці зла, што із стану эканамічнай і культурнай адсталасьці вывяў іх на арэну нармальнага гістарычнага разьвіцьця, у якім яны зьяўляюцца актыўным і творчым суб'ектам.

### РАСЕЙСКАЯ ТУРМА НАРОДАЎ — БЯСПРЫКЛАДНАЕ ГІСТАРЫЧНАЕ ЗЛО

Нічога падобнага нельга сказаць аб расейскім імпэрыялізме, які мае зусім сваеасаблівы, нідзе не паўтаральны, нацыянальна расейскі характар, падобнага якому нельга знайсьці ў цэлым сьвеце. Навет нямецкі імпэрыялізм, які меў таксама, як і расейскі, дэнацыяналізацыйны характар, хоць і ў вабмежаваным прасьцягу, у некаторых галінах, прыкладам у галіне цывілізацыйнай, згуляў і дадатнюю ролю. Тая часьць Польшчы, што да першай сусьветнай вайны знаходзілася ў межах Нямеччыны — Пазнаншчына, Памор'е й Верхняя Сілезія — потым у незалежнай Польшчы вырозьнівалася вышэйшай цывілізацыйнай узроўняй над іншымі часткамі Польшчы, асабліва над тымі, што былі ў межах Расеі.

Спэцыяльнай рысай расейскага імпэрыялізму быў і ёсьць ягоны дэнацыяналізацыйны характар. Ён быў накіраваны ня толькі на эканамічную эксплуатацыю паняволеных краінаў, сацыяльнае прыгнечаньне засяляючых іх народаў і пазбаўленьне іхных палітычных правоў, але перадусім на паняволеньне нацыянальнае. Як царская, гэтак і сталінская Расея імкнецца растапіць усе нерасейскія народы ў вадзіным расейскім моры, шляхам ведамых толькі расейцам мэтадаў іх зрусыфікаваць супраць іхнай собскай волі й гэткім способам павялічыць сваю нацыянальную магутнасьць.

З гэтае прычыны Расея была й ёсьць зацікаўленая не ў падняцьці нацыянальнай і культурнай узроўні паняволеных народаў, але ў пэрманэнтным трыманьні іх у стане культурнай і эканамічнай адсталасьці, у сеяньні цемры й някультурнасьці. У Беларусі за часоў нашае незалежнасьці было некалькі высокіх школаў на чале із слаўным Віленскім Унівэрсытэтам. За часоў належаньня Беларусі да расейскай імпэрыі ня было ў ей аніводнага ўнівэрсытэту. Ды ці можа быць лепшы паказьнік прымусовай русыфікатарскай палітыкі Расеі, як факт урадавай забароны публічнага ўжываньня беларускай мовы й забароны беларускага друку, якая трывала аж да 1905 году?

Расея з гледзішча культурнага й цывілізацыйнага стаяла шмат ніжэй за народы, ёю падбітыя й паняволеныя. Гэта незапярэчны факт прынамсі калі ходзіць пра такія народы, як беларусы, украінцы, прыбалты й народы Каўказу. Вось-жа дзеля эгаістычных мэтаў прэсьціжу, як і больш пасьпяховай русыфікацыі, Масква ня толькі намагалася штучна запыніць далейшы цывілізацыйна-культурны развой нерасейскіх народаў, але надаць гэтаму развою адваротны кірунак — зьніжыць іх да стану цемры, някультурнасьці й агульнай адсталасьці. Ведамы князь Вяземскі ў вадным із сваіх твораў сказаў русыфікатарам: **«Того и гляди, вы будете ставить в вину окраинам вашим, что у них растут тополи и каштаны и для вящего однообразия захотите приневолить их рассаживать у себя побольше ельника и ветлы»** (Собр. Соч., VIII, 319).

І так ува ўсіх галінах народнага жыцьця характэрнай рысай расейскага імпэрыялізму ёсьць нівэляцыя ўсяго нерасейскага, але нівэляцыя ня ўверх, але ўніз, ня толькі зраўніваньне ўзроўні разьвіцьця нерасейскіх народаў зь ніжэйшай узроўняй расейскай, але штучнае сьпіханьне што раз ніжэй, каб гэтым самым, пры помачы цемры й адсталасьці, стварыць спрыяльны грунт для русыфікацыі. Дык калі яшчэ да ўсяго гэтага дадаць нячуванае нацыянальнае прыгнечаньне нерасейскіх народаў, жудасны паліцыйны тэрор і сацыяльнае нявольніцтва, ня будзе тады дзіўным, што абазначэньне расейскае многанацыянальнае імпэрыі, як «турмы народаў», не зьяўляецца выдумкай толькі цяперашніх «сепаратистов» і «расчленителей», але мае сваю доўгую гісторыю, як і сама расейская імпэрыя.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХАРАКТАР САВЕЦКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Расейскія палітычныя эмігранты, а за імі й іхныя адвакаты на Захадзе намагаюцца ўсімі сіламі даказаць, што расейскі імпэрыялізм царскае эпохі й расейскае паняволеньне народаў ужо належыць да мінуўшчыны, якая болей не паўторыцца. Выходзячы з гэтага, яны цьвердзяць, што сяньняшні імпэрыялізм Савецкага Саюзу зьяўляецца зьявішчам зусім нерасейскім і ня мае нічога супольнага з запраўднымі імкненьнямі расейскага народу. У іхным уяўленьні сучасны сталінскі імпэрыялізм ёсьць зьявішчам сваяасаблівым, адарваным ад расейскага народу, якое ня мела сабе прыкладу ў дасюлешняй гісторыі ўсяго людзтва.

Ня будзем прыводзіць прыкладаў, каб паказаць усю беспадстаўнасьць такой інтэрпрэтацыі савецкага імпэрыялізму. На гэтую тэму ўжо дастаткова пісалася наагул, аб гэтым ня раз пісалі й мы. Ды напасьледак расейскі нацыянальны характар савецкага імпэрыялізму сьцьвердзіў у ведамай сваей прамове сам міністар Эчысон, зь якім палемізуе сп. Ляёнс. Што сталінскі імпэрыялізм зьяўляецца ня чым іншым, як пасьлядоўным прадаўжэньнем імпэрыялізму царскай Расеі, ёсьць ягонай больш гвалтоўнай і дынамічнай формай, паслугоўваецца больш удасканаленымі й больш праступнымі мэтадамі, чэрпае свой размах і жыцьцёвую сілу з нацыянальных пачуцьцяў расейскага народу, мае на мэце панаваньне над сьветам ня толькі пры помачы мілітарнае сілы й палітычнага тэрору, але й шляхам паступовай, але шыбкай і ня менш гвалтоўнай русыфікацыі апанаваных ім нерасейскіх народаў, — усё гэта зьяўляецца незапярэчным фактам для людзей, што ўмеюць цьвяроза глядзець на праблемы падбальшавіцкага Ўсходу.

Дык разьвіваная сп. Ляёнсам і іншымі абароньнікамі расейскага імпэрыялізму тэорыя, быццам гэты імпэрыялізм зьяўляецца гістарычнай законамернасьцю, якога нельга ні ў чым абвінавачваць, і што сяньняшні сталінскі імпэрыялізм ня мае ў сабе нічога нацыянальна расейскага, зьяўляецца ў істоце сваей хвальшывая й шкодная. Шкодная асабліва таму, што яна пасрэдна апраўдвае й рэгабілітуе сяньняшні расейскі імпэрыялізм, захварбаваны толькі на чырвоны колер, рэгабілітуе яго ў той час, калі ён зьяўляецца ў кульмінацыйным пункце свайго разьвіцьця й выказвае тэндэнцыі далейшага насіленьня, заграажаючы ўсяму вольнаму сьвету, тады, калі імпэрыялізм дзяржаваў Захаду ўжо аджыў свой век і знаходзіцца ў вапошняй фазе свайго адміраньня.

Дык не «фарызэйствам» і «нонсэнсам» зьяўляецца «наводзіць на Расею спэцыяльнае абвінавачаньне за гістарычны працэс» ейнай імпэрыялістычнай палітыкі, быццам «супольны ўсім сучасным імпэрыялістычным дзяржавам», затое апраўдваньне, абарона й рэгабілітаваньне гэтага імпэрыялізму, робленая сп. Ляёнсам ня толькі ў дачыненьні да гістарычнай мінуўшчыні Расеі, але й ейнай будучыні, зьяўляецца што найменей запраўдным фарызэйствам і нонсэнсам, якія ня можа мець ніякага вытлумачэньня ані апраўданьня.

**Алесь Крыга**

# І Далес за праграму вызваленьня

(Заканчэньне)

зарганізаваўшы свае абаронныя сілы, павінен ад палітыкі абароны перайсьці да палітычнай афэнзывы. Гэтыя свае пагляды фармулюе Далес у наступных пунктах:

1. Праклямаваньне прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў і кангрэсам, што палітыка ЗША ставіць за адну із сваіх мірных мэтаў прывярненьне запраўднай незалежнасьці народаў Эўропы й Азыі, якія цяпер знаходзяцца пад панаваньнем Масквы, і што ЗША ня возьмуць удзелу ў ніякім дагаворы, які-б пацьвярджаў уладу савецкага дэспатызму над чужымі народамі, сяньня ім паняволенымі.

2. Задзіночаныя Штаты прыялі-б стварэньню у вольным сьвеце палітычных «спэцыяльных адзінак» дзеля апрацаваньня праграмаў вызваленьня для кажнага з паняволеных народаў. Кажная група складалася-б з выпрабаваных патрыётаў, якія цешацца даверам і паважаньнем у сваіх бацькаўшчынах і заграніцай.

3. ЗША маглі-б заахвочваць да ўцёкаў з за зялезнай заслоны людзей, якія маглі-б дапамагчы пры апрацоўваньні гэткіх праграмаў.

4. Дзейнасьць «Голасу Амэрыкі» й прыватных арганізацыяў, як Камітэт Вольнай Эўропы і Камітэт Вольнай Азыі (хіба-ж і Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі — Рэд.) мусіла-б быць скаардынаванай з гэтай праграмай.

5. Гаспадарскія, гандлёвыя й культурныя дачыненьні Амэрыкі павінны быць скаардынаванымі з праграмай вызваленьня й маглі-б быць зрываныя ці абмяжоўваныя ў выпадку патрэбы.

6. ЗША маглі-б парваць дыпляматычныя дачыненьні зь цяперашнімі ўрадамі, што зьяўляюцца звычайнымі мар'янэткамі Масквы, калі-б гэта прычынілася-б да сукцэсу праграмы вызваленьня.

7. ЗША маглі-б імкнуцца да прыцягненьня іншых вольных народаў дзеля супольнага праклямаваньня палітыкі ў дачыненьні да паняволеных народаў у форме новай вялікай Дэклярацыі Незалежнасьці.

Сяньня многа сымптомаў прамаўляе за тым, што палітычная праграма вызваленьня замест дасюлешняй палітыкі кантэйнмэнту будзе афіцыяльна вызнанай рэспубліканскай партыяй пасьля партыйнай канвэнцыі, а ў выпадку рэспубліканскай перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах, яна можа стацца так-жа й афіцыяльнай палітыкай ЗША.

**І-іч**

# Праўда аб савецкіх партызанах

Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдала ў 1949 годзе першы, а ў 1951 годзе другі том вялізарнай кнігі Л. Цанавы п. н. «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў». У кнізе гэтай знаходзім мноства фактычнага матарыялу аб партызанскім руху на Беларусі падчас нямецкай акупацыі ў вапошнюю вайну, які, як сьцьвердзіла й маскоўская «Правда» за 16 жнівеня 1944 году, «падрыхтаваў спрыяльныя ўмовы для пасьпяховага наступленьня чырвонай арміі на ўсей тэрыторыі рэспублікі». У кнізе пералічваюцца паасобныя партызанскія групы, аддзелы й цэлыя арміі, прыводзіцца шмат прозьвішчаў паасобных партызанаў апісваюцца важнейшыя партызанскія апэрацыі ды напасьледак выліваюцца цэлыя вёдры памыяў на галовы «беларускіх нацыяналістых», якія, пайшоўшы быццам на службу спачатку гітлераўскай,а потым амэрыканскай і ангельскай разьведак, дзеілі й дзеяць на шкоду беларускага народу.

Але ня гэта ў дадзеным выпадку цікавіць нас у працы Цанавы. Для нас тут асабліва цікавы пагляд афіцыйных савецкіх дзейнікаў, — бо кажная «навуковая» праца ў Савецкім Саюзе толькі гэты афіцыйны пагляд можа выказваць — на прычыны, якія партызанскую вайну на Беларусі выклікалі. Вось-жа Саветы ўбіваюць у галовы людзей, што беларускі народ, масава йдучы ў партызаны, рабіў гэта з савецкіх патрыятычных матываў і выказваў сваю вернасьць і адданасьць камуністычнай партыі. **«Адным з важнейшых вынікаў разгрому гітлераўцаў пад Масквой,** — чытаем у кнізе — **быў новы ўздым савецкага патрыятызму на часова акупаванай ворагам тэрыторыі. У тысячах сёл, мястэчак, гарадоў Беларусі новыя масы савецкіх людзей арганізавана рыхтаваліся да выкананьня патрыятычнага абавязку савецкага чалавека, узброіваліся, ішлі ў лясы, фармаваліся ў тысячы моцных партызанскіх атрадаў, брыгад, становячыся пад сьцягі партыі Леніна-Сталіна, пад баявое кіраўніцтва яе падпольных органаў».**

Падобна й менская «Зьвязда» ў нумары за 8 лютага 1952 году, рэцэнзуючы кнігу Цанавы, піша: **«Беларускі народ разам з усімі народамі вялікага Савецкага Саюзу па закліку партыі бальшавікоў, таварыша Сталіна ўзьняўся на сьвяшчэнную вызваленчую вайну супраць нямецка-фашыстоўскіх акупантаў. У радох савецкай арміі, на ўсіх франтох вялікай айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах, у тылу ворага сотні тысяч беларусаў зь вялікай мужнасьцю й адвагай змагаліся з заклятымі ворагамі, адстойваючы чэсьць, свабоду й незалежнасьць савецкай радзімы».**

Вось-жа людзі, бліжэй неабзнаёмленыя із запраўдным палажэньнем на Беларусі падчас нямецкае акупацыі ў вапошнюю вайну, перадусім людзі Захаду

(Заканчэньне на 3 балоне)

ЯКУБ КОЛАС (24)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

### XXVI

### АГЛЯД ЗЯМЛІ

(Заканчэньне разьдзелу)

— А мо-б наўперад, пан Хадыка,
Калі фатыга невяліка,
Нам паказаў-бы сваё поле? —
Сказаў Міхал. — Што-ж? Ваша воля!
А пацікуйцеся: тут блізка;
Зямля, бы ў мацеры калыска,
На відавоку, пад рукамі,
Ядзяць іх мухі з камарамі!
Вось яна тут, уся валока,
Глядзіць на нас, як Божа вока.
Вось паплавец мой. Сена — піва!
Ядкое, брацікі, на дзіва:
Запраў, дык есьці будзе поп.
А жыта! ну, ня ўзьнімеш сноп!
Глядзеце: ржышча — чарапіны,
Ня вашы менскія націны,
Бо вашы менскія пясочкі
Знаёмы добра мне, браточкі —
Мясіў уласнымі нагамі,
Ядзяць іх мухі з камарамі!
Зямля раджайна, ох, раджайна!
Гарох расьце тут нязвычайна.
А грэчка! ну лаза лазою!
Ячмень, як лес, расьце бяз гною...
Хто мае здольнасьць, сілы, рукі
І гаспадарскія навукі,
Той азалоціцца, мужчынкі!
Прыдбае хлеба і скацінкі
І будзе жыць ён сабе панам
І складваць грошы чыстаганам.
Жывуць тут людзі багачамі —
Ядзяць іх мухі з камарамі! —
На поўвалоках і скупых,
Калі даўно сядзяць на іх! —
Ідзе паперадзе Хадыка
І, не шкадуючы языка,
Пасаду хваліць „залатую",
Як сваця дзеўчыну якую.
Антось на словы не зважае,
Бо ўласным вокам уздужае
Зямлі вартоўнасьці спазнаці,
Ці яна мачыха ці маці,
Ці не зьбяжыш ты зь яе ўпрочкі?
Малыя шэранькія вочкі
З-пад цёмных броў сачаць, як мышкі,
Як вучні дбалыя на кніжкі,
На іх вартоўнасьці і бракі,
Якіх ня кажны прымячае
Ці не набыў таго звычаю.
Глядзіць уніклівa і ўдумна,
Праверыць там, дзе справа сумна,
Зямельку ботам капарне,
У рукі возьме, азірне
І расьцірае ў пальцах грудку,
Каб лепш дазнаца таго скутку.
Зямля сапраўды неблагая,
Гаспадара-ж яна ня мае;
Каб пахадзіць за ёю дбала,
Тады-б ня гэтак выглядала.
— Зямля запушчана ў васпана:
Пакрыта скураю дзірвана.
Глядзеце — пырніца якая! —
Зямлі вартоўнасьць ён зьніжае:
— Чартапалох буяе дзікі, —
Антось зьвярнуўся да Хадыкі:
— А дзе ўжо пырнік завядзецца,
Змаганьне трудна зь ім даецца!
Хібеюць доўга тыя гоні.
— Э, плюнь, браток мой! плюнь, Антоні!
Гадок, ну, два таго змаганьня —
І пырніку ня будзе званьня!
Кажу-ж я вам, браток мой мілы:
Няўпраўка мне, бракуе сілы.
Зямля-ж, ох, многа патрабуе
І догляду, і той увагі
І, калі хочаце, павагі,
Тады вас хлебам ушануе
І малаком, і пірагамі,
Ядзяць іх мухі з камарамі!
— Так! гэта так, — Міхал згадзіўся: —
Яшчэ той брат наш не радзіўся,
Каб на ўзьві-вецер жыць багата
І ў дні будныя справляць сьвята.
Але дзе поле адзічала,
То й там, васпане, смаку мала —
Зрабі зямлю з такой аблогі!
Праз год ня станеш тут на ногі! —
Браты, наколькі было можна,
Вялі падходы асьцярожна,
Каб зьбіць цану, хоць той цаны
Яшчэ ня ведалі яны.
Ды як-ніяк зямлі валока.
Міхал прыкідвае на вока
Рахункі гэтай важнай справы.
Ў яго ваччу ўставалі лавы
Жытоў, што ўласнаю рукою
Засее восеньню другою
На ўласнай гэтай на зямельцы...
А ўсё відаць, як на талерцы!
На курганку лясок мяшаны —
Такі прыветны, хоць да раны
Яго вазьмі ды прылажы ты;
Далок паўзрэчу самавіты,
І гэтай рэчкі від усьцешан,
Блішчыць, бы срэбра, з-пад алешын.
Там хутаркі, ды ўсё з садамі,
То як папала, то радамі
Параськідаліся па полі.
Зямлі і пашы там даволі.
А завядзеш і тут парадак,
То й сам харош ты будзеш, гладак.
Прайшлі мужчыны па граніцы
І ўсе агледзілі драбніцы
Ды сьціслa бралі пад увагу,
Як многа дасьць зямля пасагу,
Калі-б яе купіць прышлося.
Міхал зьвярнуўся да Антося:
— Ну, як Антось, твае пагляды
Наконта гэтае пасады? —
Міхал пытае, а ў самога
Купіць зямлю ахвоты многа,
І вочы поўны спадзяваньня,
Што ім тут, будзе панаваньне.
— Зямля, брат, важна! ох, зямля!
Як сажа, чорная ральля.
Купляй, заплюшчыўшы хоць вочы,
Ды колькі грошай ён захоча?
Ці будзе, брат, нам па кішэні?
Бо шчуплаваты нашы жмені... —
І мелі доўгую параду,
А потым моўчкі йшлі ў пасаду.
— Заходзьце ў хату, калі ласка,
Бо ўжо гатова і папаска, —
Гасьцей Хадыка сустракае
І на сьняданьне заклікае.
Антось да возу адвінуўся
І зараз з торбаю вярнуўся.
Міхал з Антосем ўвайшлі ў хату,
З двара зусім падсьлепавату,
З заметна зьніжанаю столлю
І з павуцьцём па завугольлю.
Паўздоўж сьцяны стаялі лавы;
І печ і сьцены ўсе каравы,
Зямля няроўна, ўся на ямах,
На падваконьні і на рамах
Сьлед чарвяточыны замецен...
Не, выгляд хаты няпрыветны!
— Сядайце-ж, людзейкі-набогі,
Ды пасілкуйцеся з дарогі! —
Да госьцяў кажа гаспадыня,
Сама Хвядосіха Аксіня.

# Праўда аб савецкіх партызанах

(Заканчэньне)

могуць паверыць вывадам савецкіх аўтараў і бальшавіцкай прапагандзе, што быццам беларускі народ узапраўды распаліў магутнае полымя партызанскае вайны, каб гэтым самым спрычыніцца да перамогі савецкай арміі над Нямеччынай. Тымчасам нічога падобнага! Усё тое, што на гэтую тэму пішуць бальшавіцкія «вучоныя» й аб чым крычыць савецкая прапаганда, зьяўляецца ад пачатку да канца бессаромнай маной. Што беларускі народ зьненавідзіў немцаў пасьля першых месяцаў надзеі ў сваё вызваленьне пры іхнай помачы гэтак, як ненавідзіў і бальшавікоў, гэта праўда. Але ніхто зь беларусаў навет і ня думаў змагацца за Сталіна якраз таму, што для яго ён быў ані чуць ня лепшым за Гітлера. Партызанскі рух, які быў накіраваны супраць немцаў, быў адначасна антынародным зьявішчам, будучы адначасна накіраваным на вынішчэньне й беларускага народу. Тыя беларусы, якія йшлі ў партызаны, рабілі гэта супраць собскай волі, з трагічнай канечнасьці, будучы да гэтага або змушанымі збройнымі савецкімі партызанамі, або ратуючы сваё жыцьцё перад зьверствам немцаў. Каб лепей сяньня зразумець гэтую бяспрыкладную трагэдыю беларускага народу, прыпомнім коратка, як паўсталі на Беларусі савецкія партызаны й як партызанскі рух, спачатку зусім нязначны, выліўся ў запраўдную вайну ў заплеччы нямецкай арміі, прычыніўшыся ў вельмі вялікай меры да перамогі саветаў.

Завязкай партызанскага руху былі сябры камуністычнай партыі, энкавэдоўцы, камісары й ахвіцэры савецкай арміі ды вышэйшыя савецкія ўраднікі, што не пасьпелі ўцячы перад немцамі або былі спэцыяльна пакінутыя дзеля арганізацыі шпіянажу й падпольнай камуністычнай дзейнасьці. Усе гэтыя людзі, пераважна расейцы, так як такія адказныя становішчы ў васнаўным давяраюцца расейцам, ратуючы сваё жыцьцё перад нямецкай помстай, апынуліся ў лясох, дзе на працягу ўсяго 1941 году фактычна яшчэ не праяўлялі ніякай актыўнасьці. Навет заклік Сталіна цераз радыё ў пачатку вайны зь немцамі, каб на тылох ворага мясцовае насельніцтва арганізавала партызанскую акцыю, астаўся бяз рэха. Гэтая актыўнасьць распачнецца толькі ў наступным годзе, калі Сталін выдасьць свой першамайскі загад: **«узмоцніць партызанскую вайну ў тылу нямецкіх захопнікаў, разбураць сродкі сувязі й транспарту ворага, зьнішчаць штабы й тэхніку ворага, не шкадаваць патронаў супраць прыгнятальнікаў нашай радзімы» (Сталін: «Аб вялікай айчыннай вайне Савецкага Саюзу», бал. 58).**

Толькі пачынаючы з гэтага часу арганізуецца партызанскае змаганьне на Беларусі, арганізуецца яно не беларускім народам, але савецкім цэнтрам, Масквой. Ад гэтага часу Саветы будуцьськідаць увесь час з самалётаў вышкаленых партызанскіх камандзіраў, энкавэдоўцаў і цэлыя аддзелы жаўнераў — камуністычных фанатыкаў, а таксама вялікую колькасьць усякага роду аружжа й амуніцыі.

Існавалі дзьве асноўныя прычыны, дзеля якіх сотні тысячаў беларусаў апынулася ў лесе, у партызанскіх аддзелах.

Трэба ведаць, што тэрыторыі, абнятыя партызанскай дзейнасьцю, былі звычайна вялікія. Яны зваліся «партызанскімі краямі». Прыкладам «Полацка-Лепэльскі партызанскі край» расьцягваўся, — як падае Цанава — на 218 кілямэтраў. На такіх тэрыторыях поўную ўладу мелі бальшавіцкія партызаны: там нармальна працавалі ня толькі абкомы, райкомы й пярвічныя арганізацыі камуністычнай парты, але и НКВД, якое было панам жыцьця й смерці насельніцтва. Прызнаецца аб гэтым і Цанава, таксама менская «Зьвязда», якая у цытаваным ужо нумары піша: **«Рост і разьвіцьцё партызанскага руху ў Беларусі ажыцьцяўляліся пад непасрэдным кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б, узначаленага тав. П. К. Панамарэнкам, падпольных абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі. Яны паўсямесна праводзілі ў тылу фашыстоўска-нямецкіх войскаў шматгранную работу праз шырокую сетку пярвічных партыйных падпольных арганізацыяў у партызанскіх атрадах, брыгадах, населеных пунктах».** Немцы, заняўшы вялізарную часьць чужой тэрыторыі, ня мелі ані дастаткова сілы, ані тэхнічных магчымасьцяў, каб мець поўную кантролю акупаванай імі тэрыторыі. Таму тэрыторыі, абнятыя партызанамі, былі фактычна часткамі Савецкага Саюзу й падпарадкаваныя за пасярэдніцтвам партызанскага адміністрацыйнага апарату самой Маскве. Вось-жа савецкія партызаны, побач зь іншымі мерапрыемствамі, праводзілі на гэтых тэрыторыях прымусовую мабілізацыю мясцовага беларускага насельніцтва ў свае рады. Падобная мабілізацыя праводзілася таксама й на тэрыторыях, якія не знаходзіліся пад сталай кантроляй савецкіх партызанаў, але на якія гэтыя апошнія час ад часу нападалі й прымусова забіралі з сабой малодшых мужчын. Гэта адна прычына, дзеля якой у савецкіх партызанах апынулася шмат беларусаў.

Але была прычына й другая, яе стварыў у дапамогу Сталіну сам Гітлер сваей тупалобай палітыкай на занятых усходніх тэрыторыях. Немцы, як ведама, палілі на Беларусі цэлыя вёскі, воласьці, а навет раёны разам зь людзьмі на тэрыторыі партызанскай дзейнасьці, уважаючы, што сваім крывавым зьверствам змогуць застрашыць насельніцтва перад даваньнем помачы партызанам. Пры гэтым савецкія партызаны на загад Масквы агідна правакавалі гэтыя акты нямецкага крывавага тэрору. Яны спэцыяльна стараліся забіць некалькі немцаў якраз у вёсцы ці каля вёскі, ведаючы, што ўсё насельніцтва, ратуючыся перад няўхільнай нямецкай помстай за даканую ня ім віну, будзе змушанае пайсьці разам зь імі ў лес і павялічыць іхныя рады. І беларускае насельніцтва, паміма сваёй волі, мусіла гэтак паступаць. Із многіх сумных прыкладаў усе ведалі, што калі дадзеную мясцовасьць часта наведваюць партызаны або калі, барані Божа, зробяць там напад на нямецкіх жаўнераў, што прыпадкова ў тэй мясцовасьці апынуліся, то ўжо не аставалася ніякага сумліву, што хутка прыбудзе нямецкі каральны аддзел, спаліць вёску, а у ей жыўцом і ўсіх ейных жыхароў. Адзіным тады выхадам было ісьці ў партызаны.

Дзеля аб'ектыўнасьці трэба гэтта адцеміць, што асабліва ў 1943 і пачатку 1944 году, калі ўжо было пэўным, што немцы вайну прайгралі й хутка зноў вернуцца бальшавікі, некаторыя беларусы ішлі ў партызаны й дабравольна. Гэта былі пераважна людзі, што часткава супрацоўнічалі або працавалі ў немцаў. Ня верачы, што будзе магчымасьць уцячы на Захад ды стараючыся змыць сваю віну перад бальшавікамі, яны ўліваліся ў партызанскія аддзелы. Але такія выпадкі ня толькі ня былі масавымі, але наагул рэдкімі, а таму ня мелі яны ніякага ўплыву на разьвіцьцё партызанскага руху.

Гэтак выглядае праўда аб савецкіх партызанах на Беларусі й партызанскай вайне супраць Гітлера, якую сяньня Саветы прадстаўляюць, як жывы доказ савецкага патрыятызму беларускага народу. Калі-б беларускі народ змагаўся із собскай волі за перамогу Сталіна й паварот бальшавізму, то, ня гледзячы на тое, што ня лепшым за Сталіна быў і Гітлер, змаганьне такое было-б ганьбай для беларускага народу, тым больш, што, як было ўжо зазначана, партызаншчына насіла адначасна антынародны характар. Але, на шчасьце, беларускі народ гэтай ганьбай сябе ня сплямiў.

**Ст. Крушыніч**

# Да прадстаўніцтваў і чытачоў „Бацькаўшчыны“

**З сумам прыходзіцца сьцьвердзіць, што многія чытачы «Бацькаўшчыны», якія маюць сталую заработную працу й жывуць нармальным жыцьцём, атрымліваюць і надалей газэту задарма, ня думаючы плаціць навет ейнае намінальнае вартасьці.**

**У сувязі з вышэйшым зьвяртаемся да нашых Замежных Прадстаўніцтваў з катэгарычнай просьбай спыніць высылку газэты, пачынаючы з нумару 30 (109), усім тым, якія ня ўрэгулююць усей дасюлешняй залегласьці за газэту. Лішнія нумары, што з гэтае прычыны астануцца, просім выкарыстаць дзеля мэтаў прапагандовых, як і ў якасьці пробных нумароў дзеля прыдбаньня новых падпішчыкаў.**

**Газэту за дарма могуць атрымліваць толькі безработныя й ніякім іншым спосабам незарабляючыя беларусы.**

**Хто ня хоча мець перарыву ў атрымліваньні газэты, павінен безадкладна ўрэгуляваць дасюлешнюю залегласьць, як і аплаціць падпіску за наступны пэрыяд часу.**

**Выдавецтва «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# Годная прыкладу салідарнасьць украінцаў

25 чэрвеня сёлета адбылася нарада ўсіх украінскіх палітычных партыяў і арганізацыяў на чужыне, якія, ня гледзячы навет на вельмі вялікія нутраныя разыходжаньні між некаторымі зь іх, знайшлі супольную палітычную плятформу ў дачыненьні да намаганьняў Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі змантаваньня супольнага з расейцамі фронту змаганьня з бальшавізмам. У нарадзе ўзялі ўдзел наступныя ўкраінскія партыі й палітычныя арганізацыі: ВО УНРады, ЗП УГВР, СГД, УСП, ОУН, ЗЧ ОУН, УНДС, УРДП, УНДО, СЗСУ, СУКТС і прынялі супольную дэклярацыю, зь якой ніжэй падаём тры першыя пункты, як найбольш асноўныя й цікавыя ў вабліччы сяньняшняй палітычнай сытуацыі.

**«1. Нарада сьцьвярджае, што акцыя Амэрыканскага Камітэту пад кіраўніцтвам адмірала Кэрка, а таксама яго эўрапэйскага прадстаўніцтва, ідзе далей шляхам падтрыманьня вялікадзяржаўніцкіх тэндэнцыяў расейкай эміграцыі. Усе расейскія асяродзьдзі запярэчваюць права нерасейкіх народаў на аднаўленьне іхных самастойных дзяржаваў, акупаваных маскоўска - бальшавіцкай агрэсыяй, фактычна падтрымліваючы гэтым імпэрыялістычную палітыку Крамля. Далей затрыманьне афіцыйнай назвы Камітэту (Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі), намаганьне прыцягнуць прадстаўнікоў нерасейскіх народаў СССР да супольнай з расейцамі арганізацыі ды ўся сыстэма захадаў прыватных амэрыканскіх колаў ясна паказваюць тэндэнцыю да зьвядзеньня праблемы нерасейскіх народаў СССР у плошчу быццам-бы нутранага пытаньня Расеі й раскрываюць пляны захаваньня «адзінай недзялімай Расеі» й пасьля ўпадку бальшавізму. Пазыцыя Амэрыканскага Камітэту йдзе назад навет ад тых здабыткаў, што іх украінскі народ і іншыя нерасейскія народы СССР ужо здабылі ў крывавым змаганьні з расейскім бальшавізмам, а паймення — фармальна незалежныя саюзныя рэспублікі з правам выхаду з СССР, прадстаўніцтва ў ЗН і г. д.**

**2. У сувязі з пастаўленьнем Амэрыканскім Камітэтам пад кіраўніцтвам адмірала Кэрка пытаньня пра самавызначэньне, нарада ўважае за канечнае падчыркнуць, што ўкраінскае вызвольнае змаганьне вядзецца пад лёзунгам аднаўленьня абвешчанай 35 гадоў таму ўсенароднай воляй Украінскай Самастойнай і Саборнай Дзяржавы, а не пад лёзунгам зьдзейсьненьня права на самавызначэньне. Гэты апошні лёзунг быў-бы рэгрэсам з гледзішча нашых нацыянальных інтарэсаў, бо стадыю самавызначэньня ўкраінскі народ ужо перайшоў.**

**3. У васаблівасьці справа стварэньня радыястанцыі для радыяперадачаў да народаў СССР заплянаваная так, каб мовамі нерасейскіх народаў весьці прапаганду «адзінай недзялімай Расеі». Радыяперадачы ад імя супольнага радыякамітэту і пад ягоным кіраўніцтвам выклікалі-б уражаньне аб «перадрашэньні» праблемы народаў СССР у кірунку захаваньня адзінай расейскай імпэрыі. Гэта прынесла-б толькі шкоду для справы вызвольнага змаганьня супраць бальшавізму. Таму нарада ўважае, што да захадаў Прадстаўніцтва Амэрыканскага Камітэту ў справе радыяперадачаў трэба заняць нэгатыўнае становішча, і да такога-ж становішча заклікае ўсё ўкраінскае грамадзянства. Прыватныя асобы, якія выламаліся-б із супольнага ўкраінскага фронту, будуць разглядацца, як не прыналежныя да радоў украінскага грамадзянства.»**

Вышэй зьмешчаная дэклярацыя ясная й ніякіх камэнтараў не патрабуе. Усім паняволеным расейскім бальшавізмам нацыянальнасьцям астаецца толькі пазайздросьціць украінцам іхнай непахіснай нацыянальнай станоўкасьці й палітычнай дасьпеласьці.

# СТУДЫЮЙЦЕ У БЭЛЬГІІ!

Цэнтраля Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на чужыне падае да ведама, што запісы на новы акадэміцкі год 1952/53 на Каталіцкім Унівэрсытэце ў Лювэне адбудуцца ў часе ад 9 верасьня да канца кастрычніка 1952 году. Кандыдаты, якія запісваюцца першы раз на студыі, мусяць зьявіцца асабіста перад 23 верасьнем сёлета.

Пісьмовыя заявы на атрыманьне стыпэндыі з залучэньнем арыгіналу або заверанай копіі пасьветчаньня матуральнага й жыцьцяпісу трэба перасылаць як найхутчэй у сакратарыят ЦБАА: 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.

Першы сымэстр 1952/53 акадэміцкага году пачынаецца 6 кастрычніка.

На Каталіцкім Унівэрсытэце ў Лювэне ёсьць наступныя факультэты з навуковымі інстытутамі:

**1. Факультэт тэалёгіі,**

**2. Факультэт кананічнага права,**

**3. Вышэйшы інстытут філязофіі й вышэйшы інстытут рэлігійных ведаў.**

**4. Факультэт права. Пры ім школа крыміналёгіі.**

**5. Факультэт мэдыцыны з аддзелам для дэнтыстыкі й фармацыі.**

**6. Факультэт філязофіі й літаратуры. Пры ім інстытуты: архэалёгіі й гісторыі, мастацтва, арыенталістыкі, псыхалёгіі практычнай і пэдагогікі.**

**7. Факультэт ведаў тэхнічных: школа горных інжынераў, будаўляных, архітэктуры, электрыкі й г. д. Апрача таго Інстытут аграноміі.**

**8. Факультэт ведаў эканамічных і сацыяльных: а) школа палітычных і сацыяльных навук, інстытут эканамічных і сацыяльных досьледаў; б) школа эканамічных ведаў, інстытут эканамічных навук, вышэйшы інстытут гандлю, інстытут статыстычных ведаў.**

**9. Міжфакультэтны каляніяльны інстытут.**

**10. Вышэйшы інстытут працы.**

**11. Школа фізычнага ўзгадаваньня.**

**12. Школа лябарантак.**

**13. Інстытут прыгатаваўчы да тэхнічных навук.**

**14. Інстытут афрыканістыкі.**

На ўсіх факультэтах ужываюцца паралельна дзьве мовы: француская й флямандзкая.

**Лювэн, 3. 6. 52. Урад ЦБАА**

---

Яна абрусам стол накрыла,
Гасьцей уважна папрасіла;
А на стале — скаварадзішча,
І скваркі правяць там ігрышча,
Звычай спраўляючы сьвінячы,
І скрозь яечню пар гарачы
Клубкамі коціцца і смыча
І нос прыемненька казыча.
Для завяршэньня ладнай справы
Хадыка вынуў штось з-пад лавы,
І ставіць ён на стол . . . бутэльку.
Каб акрапіць сваю зямельку.
І вось, як чарка разоў пару
Прайшла ад госьцяў к гаспадару,
Тады ўсе разам зашумелі
І праканаліся на дзеле,
Якія людзі яні просты,
Што ашуканства, як каросты,
Цярпець ня могуць і ня зносяць,
Ідуць начыстую і досыць!
Што зь першых слоў адны ў другіх
Пачулі блізкіх і сваіх,
А як падводзілі рахункі,
То іх скраплялі пацалункі.
— Я вас люблю! — казаў Хадыка, —
І сам я — менскі гарамыка;
Пасябраваць хачу я з вамі,
Ядзяць вас мухі з камарамі!
І толькі вам, мае браточкі,
Каб не дажыў я гэтай ночкі,
Хачу прадаць сваю пасаду,
А сам за гандаль я засяду,
Мае вы родненькія братцы, —
Хачу я сальнікам заняцца.
— Браток хвядос! — Міхал гаворыць, —
Ня будзем доўга мы гуторыць:
Вось вам рука! — Хвядос даў руку,
І ў тым агульным шуму-гуку
Зачаўся торг, пайшлі бажыцца
жаданьні шчырым падружыцца,
б потым, далей, пры спатканьні
мець ніякіх нараканьняў.
к так: тры тысячы, Хвядосе! —
Той пальцам шоргае па носе,
Мінуту мысьліць, разважае.
Мінута важная, цяжкая.
І ціха, ціха стала ў хаце.
— Няхай так будзе, пане браце! —
Гукнуў Хадыка канчаткова.
Яны рукамі крэпяць слова,
Антось ім рукі разьнімае.
— Няхай-жа Бог нам памагае!
— Панамі будзеце, панамі,
Ядзяць вас мухі з камарамі! —

## XXVII

## ПА ДАРОЗЕ Ў ВІЛЬНЮ.

Дарогі, вечныя дарогі!
Знаць, вам спрадвеку самі богі,
Калі красёнцы жыцьця ткалі,
І вашы лёсы вызначалі.
Няма канца вам, ні супынку;
Вы жывы кажную часінку,
То задуменны, смутна срогі,
Як сьлед захованай трывогі,
То поўны чараў спадзяваньня,
То страхаў цёмнага зьніканьня,
Калі душа свой лёс прачуе,
І ноч нябыту зацянюе . . .
Дарогі, цёмныя дарогі!
Вы так маўклівы, вы так срогі,
Хто вас аблічыць? хто вас зьмерыць?
Хто вашы зьвівы ўсе праверыць?
Хто вашы ходы абшукае,
Бо ўсё сваю дарогу мае?

Я не зайздрошчу тым з вас, брацьці,
Каго спрадвечныя закляцьці
Не парушалі, не тамілі
І цяжкім каменем ня білі,
І для каго ўвесь гэты сьвет
Ёсьць аднае цялежкі сьлед,
Пытаньні толькі дабрабыту,
Дзе ўсё прыводзіцца к карыту,
І гэта ёсьць адна дарога,
Апроч яе, няма нічога.
Не! духа волі плынь жывая
Такога ладу ня прыймае
І ня прыхіліцца ніколі
Да гэтай лішне простай долі,
Бо сьвет і жыцьцё многалучны
І многавобразны, выключны.
Таемна схованы, цікавы
І align разнастайны іх праявы,
Дзе кажны момант хвалі новай
Нам штось гуторыць сваёй мовай
Для сэрца і для разуменьня;
Дзе поўна ўсё свайго значэньня,
Прыгоства, чар і глыбіні,
Дзе граюць вечныя агні,
Дзе патаемныя крыніцы
Зьвіняць, як струны зараніцы . . .
І толькі шкода: абмяжован
Ты, круг жыцьця, і ў путы скован
Варожным поясам спавіты,
Сатканым злыднямі ў тры ніты,
З прыбітай цёмнаю пячацьцю,
Як падзалежнае закляцьцю.

Я знаю: скончыцца дарога,
Бо ноч нябыту, ноч-аблога
Сачыць наш час ад дня раджэньня
Сьляпымі зрэнкамі зацьменьня,
Як дух закляцьця, дух праклёну.
Ды покі круг мой не замкнёны,
Я зноў хачу зірнуць назад
Пад тыя стрэхі родных хат,
Дзе зачалася пуцявіна,
Дзяцінства сьветлая часіна . . .
Дарогі, вечныя дарогі!
Ня вечна-ж ходзяць па вас ногі!

Дык так: зрабілі і пачатак —
Тры соткі дадзены ў задатак! . . .
Няўжо то праўда, не вяроза?
Няўжо канец табе, пагроза,
І вечны ціск пад панскім ботам
І страх знайсьці канец пад плотам?
Няўжо то праўда, а ня сьненьне,
І мара йдзе ў важыцьцяўленьне?
Цяпер няма назад адходу!
Ськідай з дарогі перашкоду,
Ні перад чым не запыняйся
І з гэтай спадчынай сквітайся,
Што асталася ад бацькоў —
Зямелькі некалькі шматкоў,
І толькі трэба йсьці станоўка,
Адно хай думае галоўка:
Як абярнуцца тут лаўчэй,
Каб справу выканаць хутчэй,
А першым дзелам справа пільна —
Паехаць трэба ў банк у Вільню
Навесьці спраўкі, сёе-тое
Ці разрашэньне там якое.
Аб гэтым шмат тут гаварылі
І ехаць дзядзьку прысудзілі.

Убраўся дзядзька, як у сьвята;
Сказаць — ня вельмі зухавата;
Пільчак быў простага суконца,
І той ўвесь вырыжаў ад сонца;
Кашуля зрэбна, але бела,
А шапка козырам сядзела,
Хоць і зналася добра з горам;
А боты вымазаў ён здорам;
А на кіёчку за плячамі
Вісела торба з кутасамі;
У торбе хлеб, кавалак сала,
Зь кішэні люлька пазірала —
Таварыш верны і нязьменны —
І з тытуном капшук раменны.
Ня зухавата, але гладка
На ім ляжала ўся апратка.

Вось дзядзька ўжо Маргі мінае
І ў даль задумай паглядае;
Ідзе, на жыта погляд кіне,
На нівах сэрцам адпачыне,
Ідзе далей, ізноў сьцігае,
Дарога гэта — немалая! . . .

**(Заканчэньне разьдзелу ў наступным нумары)**

# Беларуская эміграцыя у ЗГА

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

**Імкненьне да палепшаньня свайго матарыяльнага стану.** Гэтае імкненьне ёсьць здаровым і пажаданым сярод эміграцыі. Няго-ж нашыя людзі маюць заставацца найніжэй аплачванымі работнікамі, з каторымі ніхто ня лічыцца? Такое імкненьне сустракаецца тут із агульнай пахвалаю грамадзтва й ураду. Відавочна, яно сталася аднэй із галоўных прычынаў амэрыканскага дабрабыту. Да ашчаднасьці заклікаюць урадовыя дзейнікі. Кажны, хто працуе, можа й мае тут ашчаджаць. Не ашчаджаюць адно няздольныя да працы, безработныя ў часе безрабоцьця, некаторыя абцяжараныя сям'ёй, дзяньгубы, што лянуюцца рабіць, і п'яніцы, што прапіваюць свой заработак. Найпрасьцейшым спосабам ашчаднасьці й павялічэньня свае маемасьці ёсьць купля дамка, на што ня трэба ніякае спэцыяльнасьці, трэба толькі крыху ўмець лічыць. Кажны патрабуе жыць у доме, а гасподы дарагія. Купіўшы дамок, у найгоршым прыпадку маеш таншую, а звычайна й лепшую гасподу. Большага ўменьня вымагае ашчаджаньне купляю або закладаньнем прадпрыемстваў, што могуць рабіць звычайна майстры альбо іншыя людзі практычнай веды. Аграному добра купіць фарму. На ўсе гэтыя куплі трэба толькі малую часьць гатоўкі, бо нестаючыя грошы пакрые танны павер.

Хто не належа да вышменаваных не ашчаджаючых і не належа да купляючых, той складае сваю ашчаднасьць у банк, у гэту амэрыканскую панчаху (даець толькі 2%—2,5% у год); гэтым таковы адно тым розьніцца ад купляючых, што, заміж самому пакруціць галавою, пакідае гэтую работу банку.

Хто якім-колечы спосабам ашчаджае, таго матарыяльны стан паляпшаецца; а дзеля таго ён мае даваць болей на справу. Адмова даць на нацыянальную справу тым, што трэба сплачываць раты, ня выдзержуе крытыкі, бо купля мусіць быць такая, каб із прыбытку з купленага аб'екту удзержываць сам аб'ект і сплачываць раты. Хто такія адмовы робіць, таго трэба друкаваць прозьвішча, а не «тапіць у саладусе» разам із ім спаўняючых сваю павіннасьць.

**Арганізацыя новых беларускіх эмігрантаў.** Зарубежніцкая «арганізацыя» блізу ня існуе. Адныя, стаўшыся незалежнымі ад лідэраў, проста адыйшлі; другія перайшлі да нацыянальнага кірунку; іншыя пайшлі да расейцаў. Засталася кучка інтэлігентаў, каторыя выступаюць калі-не-калі пад рознымі фікцыйнымі фірмамі. Запраўды для такой «работы» ім болей людзей ня трэба, а работы культурнай або іншай творчай яны ніколі не вялі й не маняцца весьці.

**У нацыянальным кірунку** ёсьць тры асобныя беларускія арганізацыі (неасобных, розных прыбудовак, як болей-меней дзейных, так і зусім фікцыйных ёсьць шмат болей). Найстаршая ёсьцека

**Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкаго.** Даведзеная колькімі савятафіламі із старой эміграцыі да абушка, яна была ўзноўленая новымі эмігрантамі і калі мо' не пастаўленая цьвёрда на ногі (пра гэта здалёку цяжка сказаць), то ачышчаная ад саветафільскага й дэструкцыйнага элемэнту і ўзьведзеная на добрую дарогу. Добра, што рэарганізатары гэтае Рады парупіліся й патрапілі сабраць сюды грудок новых інтэлігентаў. Чыкаская кіраўнічая група ведае, што трэба рабіць, і як трэба рабіць. Выглядае, што ад нашых арганізаваных чыкасцаў можна шмат спадзявацца.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі,** закладзенае ў канцы лета 1949 году, калі на ягонай арганізацыйнай зборцы магло быць толькі шэсьць чалавекаў, з гэтага два належачыя да аднае сям'і. Прыездам новых эмігрантаў у 1949-51 г.г. гэтая арганізацыя павялічылася й цяпер налічвае сотні сяброў. Подле свайго статуту гэта арганізацыя агульнабеларуская, значыцца ў прынцыпе задзіночваючая ўсіх чыста беларусаў, жывучых у ЗГА, і на ейнай прасторы. І запраўды аддзелы гэтага Задзіночаньня ёсьцека ў Саўт Рывэры, Кліўлендзе, Дэтройце й Спрынгфэльдзе (штат Масачусэтс). Як ні можа здацца дзіўным, але ў Нью Ёрку, дзе найбольшая колькасьць новых эмігрантаў, аддзелу нямашака. Цэнтр гэтае арганізацыі ў Нью Ёрку, дзе месьціцца Галоўная Рада Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. На апошнім годнім Зьезьдзе дэлегатаў Задзіночаньня 1-2 сакавіка сёлета ў Галоўную Раду абраныя: ген. Ф. Кушаль — старшыня, Б. Дубоўскі — заступнік старшыні, другі заступнік старшыні — інж. Ч. Ханяўка, скарбнік — В. Русак, сакратар — А. Валюшка й рэфэрэнтка культуры й асьветы — Н. Кушаліха. Кідаецца ў вочы нястача рэфэрэнта арганізацыйнага. Ніхто із старога складу Галоўнай Рады ў новы ейны склад ня быў выбраны. Сувязь аддзелаў із цэнтрам вельмі слабкая, можна сказаць, што Галоўная Рада працаю аддзелаў ані ня кіруе.

Што да працы самых аддзелаў, дык жывучы ў Нью Ёрку цяжка пра яе шырэй казаць, можна толькі зацеміць, што аддзел ў Саўт Рывэры моцны; склад аддзелу ў Кліўлендзе здаровы й вялікі. У Кліўлендзе ёсьць шмат так званых простых людзей і шмат моладзі, затое добра, што няма тут такіх інтэлігентаў, што хочуць мець значаньне, але нічога ня робяць. Дзякуючы такому складу, нашыя кліўлендцы, як чуваць, праявілі добрую ініцыятыву й пачалі, мо' і невялікую, але добрую пляновую, абдуманую работу, выпярэджваючы гэтым мясцовасьць, ад якой можна было-б болей спадзявацца. На наступным месцы трэба паставіць беларускі Дэтройт, але пра яго пішучаму гэтыя радкі мала ведама.

Варочаючыся ўзноў да Нью Ёрку, трэба сказаць, што нябыцьцё ў ім аддзелу блага адбіваецца ў працы. Прыкладам няхай будзе тое, што за ўвесь год ня была скліканая агульная зборка ньюёрскіх сяброў Задзіночаньня. Праўда, ёсьць тут так званыя мясцовыя ньюёрскія аддзелы (у розных часьцях Нью Ёрку). Бальшыня іх завець фікцыйнымі, з чым мяншыня не згаджаецца. Але як-бы іх ня зваць, факт той, што ўся дзейнасьць такога аддзелу абмежуецца зьбіраньнем із сваіх сяброў для Галоўнай Рады месячных сяброўскіх складкаў (сабе часьці грошаў із сяброўскіх складкаў не пакідаюць, чым таксама розьняцца ад аддзелаў ня ньюёрскіх).

Ёсьць працы, каторыя Галоўная Рада Задзіночаньня павінна была-б рабіць, але каторых яна ня робе і рабіць ня зьбіраецца. Назаву зь іх выдаваньне сталага беларускага месячніка ў Амэрыцы. Патрэбны ён і дзеля карыстаньня самымі амэрыканскімі беларусамі і дзеля таго, каб з амэрыканскай беларускай эміграцыяй болей тут лічыліся. Задзіночаньне нат не пашырае выданых у табарах у Нямеччыне й прывезеных адтуль яму беларускіх кніжак.

Наапошку трэба адцеміць і падчыркнуць адну вялізарную патрэбу. У ўсіх менаваных мясцох расьсяленьня новай беларускай эміграцыі ёсьць сто разоў большая старая беларуская эміграцыя. Канечне трэба заняцца яе нацыянальным усьведамленьнем. Хто гэтым зоймецца, той пакажа, што ня толькі зможа рабіць лёгкую работу, але патрапе рабіць і цяжкую.

**Крывіцкае Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны** ёсьць арганізацыяй апрычонай. Яно групуе навукоўцаў і мае наўвеце тую работу, якую гэтыя могуць рабіць. Значыцца, заданьнем ягоным ёсьць навуковая праца, цяпер і ў бліжшай будучыні галоўна з галіны беларусаведы, як найпатрабнейшай для справы нашага народу. У Таварыстве ёсьць Моваведная й Літаратурная сэкцыі, але праца вядзецца й зь іншых галінаў беларусаведы, найболей зь гісторыі. Здабытая веда будзе адно тады карысная, калі яна будзе ведамая людзям. Дзеля гэтага перш-на-перш служаць рэфэраты, што летась у Нью Ёрку былі двойчы ў месяц, а сёлета чатыры разы ў месяц. Але з рэфэратаў наагул можа карыстаць абмежаная колькасьць людзей, а ў мовах нашае эміграцыі і пагатове, бо чытаючаму рэфэрат дзеля кошту й дзеля часу няма магчымасьці выезду зь месца свайго быцьця. Дзеля таго, што канечнай патрэбаю было выдаваць часапіс, што й сталася з выхадам часапісу «Веда» з пачатку 1951 г. За леташні год вышла пяць нумароў «Веды». Сёлета будзе выходзіць не радзей, як раз на два месяцы. «Веда», малы часапісец, але чуваць, ён робе вялікую работу. Сваім ён ува ўсе канцы сьвету адным прыносе, другім можа прыносіць (калі яны захочуць . . .) чыстую, несхвальшаваную веду пра наш народ і нашую бацькаўшчыну, хоць і пакрысе. Але дзеіць і паміж чужых: адным «Веда» адкрывае дзіўны, чудосны народ із яго багатай гісторыяй і ня менш багатай душою, другіх папраўляе хвальшы, б'ець па лапах за іхнае захопніцтва, а ўсім ёсьцека чыстым жаралом праўды пра наш народ, крыніцаю, каторай нельга памуціць.

Нялёгкая гэта праца. Найперш нялёгка апрацаваць тэму, бо ня кажны па фізычнай працы зможа ў вольныя часіны, прыхапкам, дасьледаваць навукова. А тых колькі сяброў Таварыства, што працуюць (зн. зарабляюць) навукова, ня рэдка прымушаны працаваць над чужымі тэмамі, альбо сваймі неадпаведнымі да «Веды», пісаць у мовах чужых, што патрабуе перакладу на нашую мову. Абраз будзе яшчэ ясьнейшы, калі дадаць, што ў «Ведзе» ані ў цэлым Таварыстве няма ніводнага чалавека, што, хоць часткава, быў-бы вольны ад працы на жыцьцё вонках, каб аддацца працы ў Таварыстве. Але дарма! Праца йдзець і будзе йсьці, бо людзі робяць, як казаў наш вялікі Скарына, найболей з тае прычыны, што іх міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў; робяць і будуць рабіць, бо ня могуць жыць бяз гэтае работы.

Дадам яшчэ, што Навуковае Таварыства Скарыны ўдзержуе Беларускі Архіў у Нью Ёрку, куды зьбірае ўсе чыста беларускія выданьні, каб часьць іх перадаць у вялікія бібліятэкі сьвету, а часьць захаваць, каб перадаць у бібліятэкі будучай вольнай Беларусі.

**Брачыслаў Скарыніч**

# Кажнаму беларусу -- родная песьня

**ВЫЙШЛІ З ПРАДУКЦЫІ Й ПРАДАЮЦЦА ГРАМАФОННЫЯ ПЛІТКІ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА ХОРУ Ў ЛЮВЭНЕ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПРАФ. М. РАВЕНСКАГА.**



Частка плітак ёсьць меншага разьмеру (25 цм.), а частка большага разьмеру (30 цм.).

**Плíткі меншага разьмеру зьяўляюцца наступныя:**

**1. «Ні агонь гарыць» і «Пасею гурочкі»** — дзьве беларускія народныя песьні ў выканаваньні Студэнцкага Хору. Солё: В. Шчэцька.

**1а. «Бабка» і «Камар»** — дзьве народныя гумарыстычныя песьні ў выкананьні хору. Солё: Я. Сенькоўскі.

**2. «Беларускі Нацыянальны Гымн»** у выкананьні хору.

**2а. «Пагоня».** словы М. Багдановіча, у выкананьні хору.

**3. «Чаму-ж мне ня пець?»** — народная песьня ў выкананьні хору.

**3а. «Хмель лугамі» і «Халімон»** — дзьве народныя песьні ў выкананьні **хору.**

**4. «Паляса»** — народная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

**4а. «Вечарком»** — народная песьня ў выкананьні хору.

**5. «Магутны Божа»** — беларускі рэлігійны гымн, словы Н. Арсеньневай, у выкананьні хору.

**5а. «Достойно есьць»** — царкоўная песьня ў выкананьні хору.

**6. «Верую» (I)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

**6а. «Верую» (II)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

**Плíткі большага разьмеру (30 цм.):**

**7. «Слуцкія ткачыхі»** — словы М. Багдановіча, у выканаваньні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

**7а. «Вярба»** — народная песьня ў выкананьні хору.

**8. «Іжэ Хэрувімы» (I)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору.

**8а. «Іжэ Хэрувімы» (II) й «Отчэ наш»** — царкоўныя песьні ў выкананьні хору.

Усе песьні зьяўляюцца кампазыцыі праф. М. Равенскага за выключэньнем песьні «Ні агонь гарыць», якая ёсьць кампазыцыі Чуркіна, і Беларускага Нацыянальнага Гымну.

**Цана плітак безь перасылкі: меншыя пліткі каштуюць 1 ам. даляр або 48 бэльг. франкаў кажная, а большыя пліткі — 1,60 дал. або 78,50 бэльг. фр. Цана ўсіх плітак разам: 9 дал. або 400 бэльг. фр. безь перасылкі.**

Рэкамэндуецца купляць сэрыямі дзеля выгаднейшай перасылкі.

Можна заказаць пліткі, плацячы за перасылку пры атрыманьні.

Купляць і выпісваць грамафонныя пліткі трэба з Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне: 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.

# Новыя беларускія часапісы

Нядаўна мы зазначалі на балонах «Бацькаўшчыны», што апошнімі месяцамі шпарчэй закіпела беларускае нацыянальнае жыцьцё на эміграцыі. Адным з паказьнікаў гэтае ўзмоцненае актыўнасьці зьяўляецца, між іншым, далейшае разьвіцьцё нашага пэрыядычнага друку. Толькі ў вадным месяцы чэрвені сёлета пачалі выходзіць тры новыя беларускія часапісы. Найважнейшым зь іх зьяўляюцца

**«ЗАПІСЫ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА», № 1, Нью Ёрк, 1952 г.**

Часапіс паявіўся на 64 балонах друку й мае выходзіць, як квартальнік. Гэта салідны навуковы ворган Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, які зьяўляецца прысьвечаны навуковаму дасьледваньню Беларусі, галоўна ейнае гістарычнае мінуўшчыні. Першы й аснаўны разьдзел часапісу становяць артыкулы, якіх у рэцэнзаваным нумары знаходзім чатыры. Зь іх на асаблівую заслугоўвае ўвагу артыкул праф. Льва Акіншэвіча **«Парлямэнт беларускай зямлі»,** у якім аўтар, на фоне разьвіцьця парлямантарызму іншых эўрапэйскіх краінаў, галоўна Вялікабрытаніі, дзе парлямантарызм упяршыню нарадзіўся й служыў недасягальным узорам для іншых дзяржаваў, аўтар спыняецца над парлямантарызмам беларускім. Дасьледвальнік нас інфармуе, што інстытуцыя беларускага парлямантарызму зарадзілася ў нас яшчэ ў часы ўдзельных княстваў, а ў эпоху задзіночанага беларускага гаспадарства — Вялікага Княства Літоўскага яна, карыстаючыся заходнімі ўзорамі, дасягнула ўдасканаленай формы свайго разьвіцьця.

Артыкул разглядае вельмі цікавую й мала ў нас спапулярызаваную тэму. Таму прыходзіцца жалець, што аўтар насьветліў гэтае пытаньне вельмі агульна, вельмі мала падаў фактычнага матарыялу, на падставе якога мог-бы чытач вырабіць у сабе больш менш поўны абраз разьвіцьця й функцыянаваньня парлямантарнай формы нашага дзяржаўнага строю.

Наступным артыкулам зьяўляецца першы разьдзел большае працы кампазытара Міколы Куліковіча **«Беларуская музыка. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва».** У першым разьдзеле аўтар займаецца выключна праблемай паходжаньня беларускай музыкі, даючы кароткі агляд музычных формаў старадаўных беларускіх княстваў да XIII стагодзьдзя. Артыкул сам па сабе цікавы і, ня гледзячы на фаховае апрацаваньне тэмы, зьяўляецца прыступным і для шырэйшага кола чытачоў.

Далей ідзе інфармацыйны артыкул кіраўніка Беларускай Бібліяграфічнай Службы Міколы Панькова **«Беларуская Кнігаведа на чужыне (1945—1951)».** Артыкул цэнны тым, што аўтар дакладна інфармуе нас аб стане праводжанай ББС працы ў галіне камплектаваньня й рэгістраваньня беларускага друку на чужыне, як і беларусікі ў друку іншамоўным.

Гэты разьдзел часапісу канчаецца артыкулам-даведкай В. Тумаша п. н. **«Партрэт Скарыны ў Падуі»,** у якім аўтар дае апісаньне ўпяршыню адшуканага кс. П. Татарыновічам у 1934 годзе партрэту вялікага нашага гуманістага й першадрукара Францішка Скарыны, што знаходзіцца ў ваднэй з заляў падуанскага ўнівэрсытэту, якога Скарына быў студэнтам. У часапісе даецца й рэпрадукцыя гэтага партрэту.

Наступны разьдзел **«Кнігі й часапісы»** абыймае рад рэцэнзыяў навуковых працаў пераважна чужых вучоных, якія ў большай або меншай меры датычаць і беларускіх пытаньняў, галоўна зь гісторыі Беларусі. Ня гледзячы на тое, што рэцэнзыі, за выключэньнем аднэй, напісанай праф. Л. Акіншэвічам, апрацаваныя адным аўтарам, іхная навуковая ўзроўня высокая й у часапісе яны вырозьніваюцца дадатня.

Далейшымі разьдзеламі зьяўляюцца: **«Кнігапіс беларускі»,** у якім падаецца кароткі сьпіс з кароткімі аб'ясьненьнямі важнейшых, пераважна іншамоўных твораў з галіны беларусікі, **«Літаратурныя ўгодкі»,** дзе знаходзім кароценькія зацемкі аб трох нашых паэтах — М. Багдановічу, Н. Арсеньневай і Я. Пушчы, ды напасьледак хроніка зь беларускага навуковага й культурнага жыцьця на эміграцыі.

Дадатнім бокам часапісу зьяўляецца тое, што ўсе артыкулы й зацемкі, хаця некаторыя зь іх зьяўляюцца сьцісла навуковымі, зьяўляюцца пададзенымі ў прыступнай, чуць не папулярнай форме. Дзякуючы гэтаму часапісам могуць карыстацца ня толькі спэцыялістыя, але й шырокае кола чытачоў наагул. Вельмі прыемным у часапісе зьявішчам ёсьць ягоная высокая тэхнічная ўзроўня, беззаганная беларуская мова, старанная й уважная карэкта, хаця й тут не абыйшлося безь некаторых недакладнасьцяў і непасьлядоўнасьцяў. Прыкладам нямашака пасьлядоўнасьці ў вабазначаньні мяккасьці злучніка **«зь», «ізь»** перад наступнымі мяккамі гукамі. У часапісе знаходзім: «**зь** сяньняшнім», «**зь** ягоным», «**зь** ейных», а побач з гэтым: «**з** Інстытутам», «**з** гісторыяй» і пад. Таксама рэдакцыя «Запісаў» зусім не абазначае прыстаўнога **«в»** перад спачатным **«а»,** калі яго папярэджвае прыназоўнік **«у»,** ужывае форму назоўнікаў іншамоўнага паходжаньня тыпу «хроніст» замест «хроністы». Нельга таксама зьневажаць агульнапаважанага нашага япіскапа Васіля, пішучы аб ім на расейскі лад «Владыка Васілі» (замест «уладыка», бо тут той самы карэнь, што ў слове — **«улада»**), побач із правільнай формай — «Васіль». Таксама закраліся й друкарскія хохлікі, прыкладам на балоне 50 надрукавана, што шлюб Ягайлы з Зофіяй Альшанскай адбыўся ў 1922 годзе. Аднак падобныя недакладнасьці й памылкі ў часапісе наагул рэдкія. Наагул у заслугу рэдактару «Запісаў» трэба з асаблівым націскам падчыркнуць руплівасьць і стараннасьць у рэдагаваньні часапісу.

Ня маючы на думцы абнізіць вартасьць «Запісаў» і бясспрэчнай карысьці з прычыны ягонага паяўленьня, мы на гэтым месцы адзначым аднachасны выхад двух іншых, больш скромных і, можна сказаць, міньятурных часапісаў, якія таксама не зьяўляюцца пазбаўленымі значэньня ў нашым нацыянальным жыцьці на чужыне. І так у чэрвені паявіўся ў Мюнхэне першы нумар часапісу

**«ШАРСЬЦЕНЬ». Незалежны месячнік гумару й сатыры. Ліпень 1952.**

У часапісе знаходзім рад рысунковых карыкатураў з кароткімі да іх тэкстамі. Тэматыка, зусім зразумела й натуральна, пераважае антыбальшавіцкая. Карыкатуры наагул на ўзроўні, а некаторыя, як **«Калі сонца ўзойдзе», «Ляіцызм і рутына», «Савецкія песьні», «Кароўя палітвучоба»** й **«Сваты»** — вельмі добрыя. Часапіс зьяўляецца за малога разьмеру (толькі 8 балонаў кніжнага фармату) і магчыма таму няма ў ім большых сатырычных нарысаў і фэльетонаў.

Што датычыцца мовы й карэкты, дык тут, на жаль, знаходзім адваротнае зьявішча, чымсьці ў «Запісах». Наагул рэдактар ня мае права так лёгкадумна адносіцца да нашае мовы й засьмечваць яе русыцызмамі, граматычнымі, правапіснымі й карэктарскімі памылкамі, якіх у часапісе процьма.

Адразу кідаецца ў вочы, што пісаў, ілюстраваў і рэдагаваў часапіс адзін і той самы чалавек. Таму пажадана, каб і іншыя беларусы, што маюць сатырычны талент, прынялі актыўны ўдзел у яго рэдагаваньні. «Шарсьцень» — гэта першы беларускі сатырычны часапіс на эміграцыі. Таму ягонае паяўленьне астаецца толькі прывітаць ды пажадаць, каб ягоны наступны нумар быў прынамсі на 16 балонах друку й каб рэдакцыя больш уважліва адносілася да мовы й карэкты.

Напасьледак яшчэ некалькі словаў аб вельмі карысным і патрэбным у нас часапісе, якім зьяўляецца

**«КАЛАСКІ». Месячны часапіс для дзяцей. № 4 за чэрвень 1952 г.**

«Каласкі» паяўляліся ўжо ад сакавіка сёлета, але толькі ў форме аднэй балоны ў газэце «Бацькаўшчына». Ад чэрвеня 1952 г., астаючыся й надалей дзіцячым дадаткам да «Бацькаўшчыны», паяўляюцца яны ўжо асобным часапісам на 8 балонах друку кніжнага фармату.

Часапіс выдаецца старанна, зьмяшчае шмат рознага матарыялу, прытарнаванага да веку й зацікаўленьня нашых малых чытачоў, пры гэтым зьяўляецца багата ілюстраваным. Гэта першы на эміграцыі беларускі часапіс для дзяцей, які, з гледзішча на гэта, павінен зьвярнуць на сябе асаблівую ўвагу нашага грамадзянства й здабыць у яго як найшырэйшае падтрыманьне. А ўсе беларускія бацькі павінны паставіць за свой абавязак, каб ніводнае беларускае дзіця ў школьным веку г астаvалася без «Каласкоў».

**Ст.**